# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 22 (274) | ГОД VI | БЕЛАСТОК 28 МАЯ 1961 ГОДА | ЦАНА 60 ГР.




Чыт й рэпартаж на стар. 3. п.з. «Лішнія».

У 5-ю гадавіну

## У ВАРШАЎСКІМ АДДЗЕЛЕ БГКТ

14 мая 1956 года быў пакліканы да жыцця аддзел БГКТ у Варшаве. З выпадку 5-ай гадавіны актыў Варшаўскага аддзела 14 мая бягучага года арганізаваў урачыстую вечарыну ў афіцэрскім клубе пры Ал. Непадлегласці.

У Варшаве пражывае пэўная колькасць беларусаў. З года ў год у вышэйшых навучальных установах Варшавы здабывае веды шмат сялянскіх і рабочых дочак і сыноў беларусаў з Беласточчыны. Ад 1956 года існуе тут аддзяленне беларускай філалогіі пры Варшаўскім універсітэце. Дык можна сказаць, што варшаўскае беларускае асяроддзе — гэта асяроддзе амаль выключна інтэлігенцкае. Гэтая яго характэрная рыса вызначае спецыфічныя напрамкі дзейнасці Аддзела.

Большасць варшаўскіх беларусаў, а перш за ўсё студэнцкая моладзь, утрымлівае цесную сувязь з Беласточчынай. Праяўляецца яна ў форме кантактаў са сваякамі, блізкімі, знаёмымі, прафесіянальнай практыкай студэнтаў у школах, установах і прадпрыемствах Беласточчыны.

Формы працы Варшаўскага аддзела і яе напрамак будуць зразумелымі нашым чытачам, калі прывядзем некалькі прыкладаў арганізаваных мерапрыемстваў, пачынаючы ад кастрычніка мінулага года. Адбылося па некалькі аўтарскіх вечароў Яшы Бурша, Янкі Ду-

(Працяг на стар. 4.).

Міхась Машара

## Атэстат сталасці

Ты не помніш, напэўна,
як рабіў першы крок,
як ступаў ты няпэўна,
як хістаўся ўбок,

як чапляўся пужліва
ты за матчын падол.
Свет здаваўся, як дзіва,
што ляжаў навакол.

Так вось вёсны міналі,
за гадамі — гады,
што цябе ўзгадавалі
хлапчуком маладым.

Пад бацькоўскаю ласкай
ты ішоў у жыццё,
і цудоўнаю казкай
паўставала ўсё:

і прыгожасць абшараў,
і таемнасць бароў,
і чароўныя мары
тых дзіцячых гадоў.

Потым школа... настаўнік...
Спрэчак першых задор —
і шырокі і слаўны
развінаўся прастор.

Быў заўжды працавіты
і навуку любіў,
зараз скончыў іспыты:
ты ўжо сталасць набыў.

Дарагая радзіма
прад табою уся.
Дык, юнача, шчаслівa –
у дарогу жыцця!

Будзеш жыць пад апекай
нашай дружнай сям'і,
толькі будзь чалавекам
толькі працу любі!

## „ЧУВАЙ!"

Гэта лозунг і кліч гарцэраў. У Беластоцкім ваяводстве ёсць іх 46 000. Гарцэрская сям'я расце безупынна. Аблічваецца, што пад канец бягучага года павялічыцца яна да 50 тыс. членаў. Гарцэрскія дружыны дзейнічаюць амаль у кожнай пачатковай школе.

Шмат папрацавалі гарцэры падчас перадвыбарчай кампаніі. Упрыгожвалі яны выбарчыя залы, прыймалі ўдзел у парадкавай службе, праводзілі агітацыю сярод насельніцтва за галасаванне на спісак Фронта адзінства народа, дапамагалі інвалідам і старыкам дабрацца да выбарчых пунктаў.

У жніўні мінулага года ваяводскія ўлады Саюза польскіх гарцэраў кінулі прапанову аб наладжанні ваяводскага гарцэрскага злёту. Прапанова спадабалася. Было ўстаноўлена, што гэты злёт адбудзецца ў першых трох днях чэрвеня бягучага года.

Гарцэры вырашылі дакладна падрыхтавацца да свайго свята, як яны называюць свой ваяводскі злёт, каб не прыбыць у Беласток з пустымі рукамі. Зараз побач з заклікам: «Чувай!» гучыць на гарцэрскіх зборах і другі лозунг: «Служба Беласточчыне!» Звыш шасцісот гарцэрскіх дружын падняло перадзлётавыя абавязацельствы, мэтай якіх з'яўляюцца змаганні за рост культуры штодзённага жыцця ў вёсках і гарадах, пасёлках, наладжанне і замацаванне сувязей з моладдзю іншых раёнаў Польшчы і другіх краін.

(Працяг на стар. 4)



## У НОВАЙ СЯДЗІБЕ

НАШЫ ІНТЭРВ'Ю

Нельга яшчэ сцвярджаць, што растуць тут дамы, як грыбы пасля дажджу, але ў Сямяцічах ад часу абсталявання там павятовага цэнтра шмат чаго змянілася і што важнае, змянілася на лепшае. Многа ўжо тут пабудавана і ўсё яшчэ будуецца. Напрыклад, 1 мая пер态казана ў карыстанне двухпавярховы гмах — сядзібы Павятовага саюза гмінных кааператываў «Сялянскай самадапамогі».

Старшыню ПЗГС-у, Яна Новака, сустракаю ў яго новым, абшырным кабінеце.

(Працяг на стар. 5)



Новая сядзіба сямяціцкага ПЗГС-у. Апрача канторы змяшчаецца тут Сялянскі гандлёвы дом і багата абсталяваная святліца, якой карыстаюцца ўсе жыхары горада.

# ПЕРАМАГАЕ ІДЭЯ ПЕРАГАВОРАЎ

Мы дачакаліся цэлай серыі сустрэч і канферэнцый, якія маюць у наш неспакойны час агромнае значэнне. Яны нясуць з сабою шансу на ўмацаванне міру і развіццё міжнародных адносін паміж дзяржавамі з рознымі грамадска - палітычнымі сістэмамі.

Канферэнцыя ў Жэневе, прысвечана Лаосу, працягваецца. Прадстаўнікі чатырнаццаці дзяржаў абмяркоўваюць савецкую прапанову аб устанаўленні ў гэтай краіне нейтральнай зоны, свабоднай ад мілітарнай канкурэнцыі.

У невялікай французскай мясцовасці Эвіян, размешчанай ля жывапіснага Леманскага возера, працягваюцца размовы па алжырскаму пытанню. Насупраць сябе селі прадстаўнікі старон, якія вось ужо шэсць год паміж сабою ваююць. Францыю прадстаўляе міністр Жокс, а алжырскую дэлегацыю ўзначальвае віцэ-прэм'ер тымчасовага ўраду Белькасем Крым. Адзначым, што гэта той самы Крым, якому французы двойчы вынеслі смяротны прыгавор за паўстанцкую барацьбу. Французы павінны сёння памірыцца з думкай, што чалавек, узначальваючы вызваленчы рух, з'яўляецца партнёрам у размовах аб незалежнасці краіны, якую дагэтуль яны лічылі неад'емнай часткай сваёй дзяржавы. Больш таго, членамі алжырскай дэлегацыі з'яўляюцца Бен Бела — прэм'ер у будучым свабодным Алжыры, а таксама яго сябры — міністры ў часовым урадзе. Усе яны былі ў свой час здрадніцка арыштаваны французскай паліцыяй. Зараз знаходзяцца пад яе аховай ля Эвіян.

Гэтыя факты пераканаўча сведча ъ аб паспяховым развіцці вызваленчага руху ў Алжыры і аб тым, што цвяроза мыслячыя французы не думаюць ужо аб Алжыры як аб частцы Францыі. Дэ-Голь гэта найлепш зразумеў. Ужо ніякага значэння не маюць выбухі гневу сярод французскіх ультрасаў, пражываючых у Алжыры. Фронт нацыянальнага вызвалення пераўтварыўся ў матэрыяльную сілу, якая патрапіць перамагчы і ў адкрытай стычцы. Размовы ў Эвіян сведчаць, што прэзідэнт Дэ-Голь уяўляе сабе непазбежнасць гістарычных працэсаў. Зараз намагаецца ён захаваць як мага найбольш эканамічных карысцей, якія можа яшчэ даць для Францыі Алжыр. Французская дэлегацыя вельмі хоча, каб Алжыр быў краінай злучанай з Францыяй вузамі садружнасці і каб меў шырокі ўнутраны самаўрад. А алжырцы настойваюць на поўным самавызначэнні. У апошні час, аднак, прэм'ер часовага алжырскага ўрада Ферхад Абас выразіў гатоўнасць наладжання з Францыяй супрацоўніцтва і заявіў, што незалежны Алжыр «гатоў рэспектаваць усе інтарэсы Францыі, якія не супярэчаць інтарэсам Алжыра». Гэта дае магчымасць дасягнення кампрамісу, а ўсяму свету шансу зліквідаваць яшчэ адзін ачаг вайны. Перад алжырскім народам адкрываецца шлях да міру і незалежнасці. Абы толькі ўсё гэта здзейснілася ў Эвіян.

УЛ. ЛАЗІНСКІ

ВЕСЦІ БССР

# Беларускія ДЫВАНЫ

Беларускія дываны! Іх можна спаткаць і на Далёкай Поўначы і на Далёкім Усходзе, на Украіне і ў Прыбалтыцы. Сваім майстэрствам і высокай якасцю прадукцыі віцебскія мастакі заваявалі ўсеагульнае прызнанне і павагу. Віцебскі дывановы камбінат вырабляе чатыры віды дываноў: набіўныя, жакардавыя, стужкавыя, аксмінстэрскія і два віды дывановых дарожак.

Як жа вырабляюцца беларускія дываны? Іх нараджэнне пачынаецца ў мастацкай майстэрні. Перад тым, як гама фарб, якая радуе вока свежасцю і навізною, пераўтворыцца ў матэрыял, яна старанна падбіраецца і наносіцца мастакамі на белыя лісты паперы.

За пэнзалем мастака на паперы ажываюць народныя матывы, прыгажосць беларускай прыроды. І вось, нарэшце, пасля доўгіх пошукаў гатовы малюнак будучага дывана. Пасля зацвярджэння мастацкім саветам ён атрымлівае пуцёўку ў свет.

Старанна працуюць віцебскія мастакі пад кіраўніцтвам вопытнага майстра сваёй справы загадчыка мастацкай майстэрні Веры Сенькінай. Гэта яна стварыла першы дыван на аснове беларускага арнамента, які стаў шырока вядомы.

У мастацкай майстэрні нарадзіўся шэраг дываноў па народных матывах брацкіх рэспублік. Высокую адзнаку атрымалі, напрыклад, дываны, зробленыя на 250-годдзе Ленінграда, на 40-годдзе Вялікага Кастрычніка, «Фестывальны» да свята моладзі,



карцінныя дываны «Чапаеў», «Лес», дзіцячыя дываны на тэмы народных казак. З вялікім творчым уздымам працавалі мастакі над дыванам з вобразам вялікага Леніна. За дзесяць апошніх год мастакі стварылі больш двухсот выдатных малюнкаў дываноў.

Працэс вырабу дываноў — справа даволі складаная. Каб зрабіць яго ўручную, трэба было б папрацаваць некалькі месяцаў. А працэс вырабу на фабрыцы паскораны ў некалькі разоў. Малюнкі жакардавага дыван на спецыяльным станку як быццам зашыфроўваюцца пры дапамозе маленькіх круглых дзірачак на картоне. Адна дзірачка — будучая варсінка дывана. На дзесяць сантыметраў робіцца 35 невялікіх картонных карт, а ўсяго на вялікі дыван іх трэба больш тысячы. Складзеныя ў доўгую стужку, гэтыя карты закладваюцца ў жакардавы ткацкі станок. Тут на валках нацягнута пража патрэбных колераў. Хутка бегае чаўнок станка і метр за метрам плыве шырокая стужка мяккай варсістай тканіны.

На стрыгальнай машыне выраўніваецца паверхня дывана, здымаецца непатрэбны пух і вузельчыкі, а адваротны бок пакрываюць спецыяльным клеем. Пасля прасушкі застаецца толькі прышыць махры або проста абшыць абрэзаныя бакі, каб не высыпаўся ворс, і дыван гатовы.

Дываны, зробленыя на жакардавых станках, вылучаюцца моцнасцю і выразнасцю малюнка. Аднак ёсць тут адзін недахоп — нельга выкарыстоўваць пражу больш пяці розных колераў. Затое на станках другога віда — аксмінстэрскіх — колькасць колераў можа быць неабмежаванай.

З вялікім энтузіязмам працуюць віцебскія дываншчыкі. Брыгады дабіваюцца высокіх працоўных паказнікаў. Так брыгады ткацкага цэха пад кіраўніцтвам вопытных памочнікаў майстра Шалаева і Гайдукова неаднаразова заваёўвала першынства ва ўсесаюзных і рэспубліканскіх спаборніцтвах.

Выдатныя перспектывы намячаюцца перад віцебскімі дываншчыкамі ў гэтай сяміголцы. Прадпрыемства ў бліжэйшы час будзе значна расшырана і рэканструявана. Гэта зробіць магчымым у паўтара разы павялічыць выраб.

Хутка выраб дываноў у краіне яшчэ больш павялічыцца. Сямігадовы план прадугледжвае будову ў Брэсце новага дывановага камбіната. Гэта будзе адно з самых буйных прадпрыемстваў Беларусі.

П. Аддзельны




Атрад адыходзіў на захад. Кузняцоў «адступае» разам з немцамі ў Львоў.

## ДЗЕ ПАУЛЬ?

Памятаючы наказ Кузняцова, Валя зрабіла спробу даведацца дакладна аб Коху. У тым, што імперскі камісар Украіны і гаўляйтэр Усходняй Прусіі больш у Роўна не вернецца, не заставалася ніякіх сумненняў. Важна было высвятліць іншае: ці знаходзіцца ён у Кенігсбергу, ці ў Берліне. З асцярожных слоў аднаго маёра, знаёмага Валі па райхскамісарыяту, яна зразумела, што Кох у Берліне.

У гэты дзень у райхскамісарыяце падрыхтоўка да эвакуацыі прыняла асабліва ліхаманкавыя тэмпы. Валя вярталася дамоў у добрым настроі. Яна не ішла, а бегла. Заўтра яна будзе ў Львове, а там...

У дзесяць гадзін вечара да яе пастукалі. Яна пачула голас Лео Метко, таго самога Метко, які быў адным з яе першых «знаёмых» у Роўна і памог з прапіскай. Што яму трэба?

З Метко ўвайшлі ў пакой чацвёра вайсковых гітлераўцаў і двое цывільных. Гэтыя цывільныя адразу ж пашлі ў кухню.

— Чым магу служыць? — па-нямецку спытала Валя, стараючыся не траціць самаўпэўненасці

Обер-лейтэнант, відавочна старшы, падышоў да яе ўпрытык і сказаў па-руску, прыставіўшы пісталет:

— Дзе Пауль?

— Не разумею, — адказала Валя, скурчыўшыся ад дотыку дула.

Гестаповец не адымаў пісталета.

— Дзе? — паўтарыў ён.

— Які Пауль? — прытвараючыся, што нічога не разумее, спытала Валя. — У мяне ёсць некалькі знаёмых, якія носяць гэтае імя.

У памяшканні пачаўся вобыск.

— Апранайцеся! — загадаў обер-лейтэнант.

Гітлеравец увесь час гаварыў па-руску. Ён, відавочна, хацеў падкрэсліць, што ведае яе паходжанне, і чакаў, што яна ад нечаканасці таксама загаворыць па-руску. Але Валя была ўпартай.

— Я эвакуіруюся з райхскамісарыятам. Вы не маеце права мяне затрымліваць, — працягвала яна па-нямецку.

— Не турбуйцеся! — сказаў обер-лейтэнант. — Мы вас эвакуіруем менавіта туды, дзе вам трэба быць.



Валя Доўгер

— Але я лепш ведаю... — пачала была Валя, але не дакончыла.

— Усіх узялі, гэта апошняя, — пачула яна з кухні, дзе вазіліся жандары.

Гутарка была бясплоднай. Ім трэба ведаць, дзе Кузняцоў, а яна гэтага ніколі ім не скажа.

Яе вывелі на вуліцу. Там ля кожнага акна кватэры стаялі аўтаматчыкі. За вуглом Валя ўбачыла тры легкавыя машыны. Дзяўчыну штаўхнулі ў адну з іх. Валя ведала, якімі вуліцамі яе павязуць у гестапа. Яна ні аб чым не думала. На вуліцах бязлюдна. На адным скрыжаванні машыну спыніў патруль. Валя ўспомніла, што горад аб'яўлены на пагражаючым становішчы. І хоць гэта не было для яе навасцю, яна вельмі ўзрадавалася. Упершыню так ясна адчула яна свята набліжэння сваіх.

## У ГЕСТАПА

У дзве гадзіны ночы пачаўся допыт. Нейкі незнаёмы ёй маёр, таксама з пісталетам у руцэ і таксама тыкаючы дулам

# ХТО ВІНАВАТЫ

Жыхары вёсак трох грамадскіх радаў нарадовых — у Ялоўцы, Шымках і Юшкавым Грудзе (Беластоцкі павет) маюць немалыя клопаты з дастаўкамі абавязковых дзяржаўных паставак мяса, збожжа, бульбы і наогул з прадажай сваіх лішак сельскагаспадарчых прадуктаў. Прычынай цяжкасцей з'яўляецца адлегласць да скупачнага пункта пры ГС-е ў Міхалове. Напрыклад, з Шымкаў у Міхалова 22 км, а з вёскі Залешаны (ГРН Шымкі) — амаль 27 км. Такія адлегласці нялёгка пераадольваць фурманкамі, ды яшчэ, напрыклад, у гарачы час палявых работ, калі кожная гадзіна надта дарагая.

Трэба арганізаваць скупачны пункт, а перш за ўсё, і гэта найважнейшае, — пабудаваць будынак — магазін. Ведаюць аб гэтым жыхары гэтых аколіц, ведаюць адпаведныя ўлады. Праўленне Павятовага саюза гмінных спулдзельняў у Беластоку не прадбачыла ў сваіх інвестыцыйных планах пабудовы тут будынку — магазіна для скупачнага пункта. Грамадскія рады нарадовыя ў Ялоўцы, Шымках і Юшкавым Грудзе неадночы звярталіся да праўлення ПЗГС-а ў Беластоку з просьбай аб вырашэнні праблемы. ПЗГС, у сваю чаргу, паставіў умову: калі сяляне ўнясуць 30% свайго ўкладу на конта частковага пакрыцця кошту пабудовы магазіна, дык тады пабудова распачнецца. Сяляне, у асноўным, на гэта згодныя. Узнікла, аднак жа, новая праблема, якая стала на перашкодзе далейшаму паспяховаму вырашэнню справы. А менавіта, справа месцараспалажэння скупачнага пункта. Цэнтрам аколіцы з'яўляюцца ж Шымкі. І тут трэба ў будучыні арганізаваць скупачны пункт. Тым больш, што ў Шымках ёсць пляц для пабудовы магазіна.

ПЗГС у Беластоку павінен падыйсці да справы больш па-гаспадарску. Гэта выйдзе толькі на карысць гаспадарчай актывізацыі аколіцы. Нельга ж пакінуць справы нявырашанай яшчэ на некалькі год, як гэта рабілася дагэтуль.

М. К.

## Аб Янку Брылю

Галоўнае праўленне Беларускага Таварыства надрукавала канспект п.з. «Янка Брыль — сучасны беларускі празаік» у тыражы 200 экземпляраў. Гэты канспект атрымалі павятовыя бібліятэкі ў Сямятычах, Бельску, Гайнаўцы, Беластоку, Саколцы і Дубровс, а таксама інспектараты асветы ў гэтых мясцовасцях. Будзе ён служыць дапаможнікам у арганізоўванні літаратурных вечарын у вясковых бібліятэках і ў навучанні беларускай мовы ў школах. Аўтарам канспекта з'яўляецца мгр Люба Філіпік. (с. я.)

**3276000 кніжак**

## Бібліятэкі і чытачы ў ліках

Зараз у нашым ваяводстве існуе 296 грамадскіх бібліятэк. У гэтым 259 знаходзіцца ў вёсках, а 37 — у горадзе. Маем 1955 бібліятэчных пунктаў, з чаго 1909 памяшчаецца ў вёсках.

Адзін бібліятэчны пункт служыць для 2,3 вёскі; адна грамадская бібліятэка — для 1,3 грамады, дзе ў сярэднім налічваецца 2 980 жыхароў. Адна гарадская бібліятэка прыпадае на 8860 жыхароў.

Усе успамянутыя бібліятэкі налічваюць 1 276 000 экземпляраў кніжак. У гэтым ліку: 51,1 % мастацкай літаратуры, 29,3% — папулярна - навуковай і 19,6% — дзіцячай.

Калі разыходзіцца аб карыстанне грамадскімі бібліятэкамі, дык стан яго незадавальняючы. Напрыклад, у 1960 годзе з грамадскіх бібліятэк карыстаецца 178 000 асоб. што абымае толькі 16.1% агульнага ліку жыхароў.

Апрача грамадскіх бібліятэк, на Беласточчыне існуе таксама 1656 бібліятэк пры прадпрыемствах, школах і педагагічныя бібліятэкі. Гэтыя бібліятэкі налічваюць 2 000 000 экземпляраў кніжак і маюць 160 000 чытачоў. М. К.

Hiba

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 25-89, centrala 37-41 do 49.

Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2.40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14.40 zł, rocznie — 28.80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma.

Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wilcza 46 Nr konta PKO 1-6-100024.

Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie; 5 $ — w USA.

Nakł. 5000. Bltk. B-2

# МАТАРЫЗАЦЫЯ ПАШЫРАЕЦЦА

Добрымі і карыснымі справамі займаецца моладзь у вёсцы Палічна, Гайнаўскі павет. У мясцовай школе даўжэйшы час, дзесьці ад пачатку красавіка, працягваецца матаровы курс, у праграме якога прадбачваецца 60 гадзін урокаў. Урокі адбываюцца па 2—3 дні ў тыдзень і ў канцы гэтага месяца закончацца. Яго ўдзельнікі атрымаюць права вадзіць матацыкл. Аб папулярнасці матарызацыі ў Палічнай і іншых вёсках сведчыць факт, што курс наведвае 60 асоб, а ў тым ліку амаль усе хлопцы з Палічнай, чатыры асобы з Дубіч Царкоўных, каля дзесяці хлопцаў з Грабаўца, пяць з Чэхаў Арлянскіх, пяць з Еленкі. Сярод курсантаў ёсць таксама маладыя жанчыны. Інструктарам курса з'яўляецца грам. Крынскі з Гайнаўкі.

**Мікалай Панфілюк**
Дубічы Царкоўныя

## Веды спатрэбяцца ў сельскай гаспадарцы

Ад 15 снежня 1960 года да 15 красавіка г. г. працягваліся заняткі ў Школе сельскагаспадарчай падрыхтоўкі ў Саках, Бельскага павета. Урокі пачыналіся ў 16 гадзін і канчаліся каля 22 гадзіны. Часта вучням даводзілася вяртацца дахаты ў дажджлівае надвор'е, перабірацца праз снежныя гурбы. У часе ўрокаў мы многа даведаліся цікавага, аб чым дагэтуль і не чулі, хаця мы і сялянскія дзеці. Настаўнікі Л. Вакулеўская, Я. Суліма, Я. Леўчук шмат паложылі намаганняў, каб заняткі як мага больш далі карысці вучням.

Зараз працягваецца другі этап нашай адукацыі — мы працуем ад 15 красавіка да 15 кастрычніка на бацькоўскіх гаспадарках. Будзем вырошчваць кукурузу, каб гэтая расліна знайшла ў нашай сельскай гаспадарцы належнае ёй месца. З Таруня мы атрымалі насенне алеістых раслін і вынікамі іх вырошчвання будзем дзяліцца з Саюзам плантатараў алеістых раслін. Наглядзячы на працу на гаспадарках, мы і далей утрымоўваем сувязь са школай. Кожны тудзень у ёй адбываюцца кансультацыі, дзякуючы якім пашыраем свае веды.

**Кастусь Астапчук**
Мякішы

## Выстаўкі беларускага друку

З выпадку Дзён асветы аддзел БГКТ у Мілейчыцах адкрыў выстаўку беларускага друку і кнігі. Падобныя выстаўкі наладжаны ў школе ў Рагачах, Зубачах. У Клюковічах такія выстаўкі знаходзяцца ў школе і ў мясцовай грамадскай бібліятэцы. У Сямяцічах беларускі друк экспануецца ў Павятовай бібліятэцы. У паасобных школах дзеці зрабілі цікавыя фотагазеткі.

**М. Вішэнка**
Мілейчыцы



**Выстаўка беларускіх газет і часопісаў у Мілейчыцах пры сядзібе аддзела БГКТ.**

## ДОБРАЯ КНІГА

«AGROTECHNIKA» — супольная праца выдатных знаўцаў гэтай галіны. Сваёй задачай ставіць: азнаямленне з асяроддзем, у якім жыве расліна (глеба, клімат), азнаямленне са спосабамі паляпшэння глебы (угнойванне, меліярацыя), вучыць як рабіць, каб з зямлі здабыць як найбольшы плён (уласцівы падбор насення, догляд за пасевамі).

У кнізе ўзяты пад увагу дасягненні сельскагаспадарчай навукі і прадукцыі апошніх год.

Каб гаспадар мог добра і выдатна гаспадарыць на зямлі, ён павінен ведаць падставы сельскай гаспадаркі, трэба каб дасягненні навукі і тэхнікі ўводзіў у сваю штодзённую працу, каб пастаянна чытаў фаховую сельскагаспадарчую літаратуру — гэта залог добрых плёнаў. І гэтаму вучыць «Agrotechnika».

Кніга вялікая — 876 стар., цана 50 зл.

«ATLAS JABŁEK» — невялікая кніжачка, якую прапануем асаблíва садаводам. Кніжачка падае характэрныя рысы розных гатункаў яблык, спосабы іх гадоўлі, вучыць як трэба перахоўваць яблыкі.

Выданне багата ілюстраванае каляровымі карцінамі розных гатункаў яблык і апісаннем іх. Каштуе толькі 20 зл.

вл.




**СМЕРЦЬ НА ДАРОГАХ**

Няшчасныя выпадкі на дарогах Беласточчыны здараюцца штораз часцей.

На працягу толькі пяці дзён (ад 9 па 14 мая) міліцыйная служба руху занатавала ў Беластоцкім ваяводстве 14 няшчасных выпадкаў, прычынай якіх былі, у першую чаргу, — нецвярозасць і абыякавыя адносіны да пастаноў аб дарожным руху.

Вось, напрыклад, нядаўна загінула пад самаходам сямігадовая дзяўчынка, Елянта Толч з Беластока (вул. Нядзведзя 24). Шафёр, Фабян Амбражэвіч, не прытрымліваўся правіл дарожнага руху і ён адказны за гэты выпадак.

Працаўнік фабрыкі ўхвытаў у Беластоку, Антон Мацейчук, будучы ў Страблі (Бельскі павет), найперш добра сабе падпіў з сябрамі, а затым без дазволу «пазычыў» матацыкл ад Леваня Грабоўскага з вёскі Плюшы, у Бельскім павеце, і паімчаўся на прагулку. Закончылася яна на мураванай агарожы цяжкім знявечаннем цела. Прычынай няшчасця было п'янства, а што за тым ідзе — і неадказная, хуткая язда на павароце.

**КРАЎ ДОШКІ**

Анаталь Кавальчук (Беласток, вул. Плютунова 7, кв. 4) даўжэйшы ўжо час «падбяраў» дошкі з плошчы будовы пры вуліцы Плютуновай у Беластоку. Вартасць украдзеных ім дошак складае суму 66 500 зл. За сваю крадзеж стане ён перад судом.

Скрамнейшымі зладзеямі аказаліся Пятро і Мікалай Еўдашукі з вёскі Кнаразы, у Бельскім павеце. Укралі яны дрэва з лясніцтва Звежынец (Гайнаўскі павет), вартасць якога — 3 666 зл. Пятра Еўдашука пракурор загадаў арыштаваць, а Мікалай да часу судовага разбору астаецца на свабодзе.

**П. БЯДА**

## З'ЕЗД ЗСЛь

14 мая г. г. адбыўся павятовы справаздачна-выбарчы з'езд Аб'яднанага людовага страніцтва ў Саколцы. Дэлегаты ў сваіх выступленнях вельмі многа ўвагі ўдзялялі сельскагаспадарчай адукацыі, развіццю сельгасгурткоў, неабходнасці залясення няўжыткаў, а таксама справам меліярацыі.

Дыскутанты звярталі ўвагу на неабходнасць арганізавання на Сакольшчыне прадпрыемства перапрацоўкі фруктаў.

З'езд выбраў новыя ўлады Павятовага камітэта ЗСЛь. Сакратаром перавыбраны ізноў Аляксандр Рафаловіч. (мх)

**Скаргі і прапановы**

## З КРЫВОЙ

Мой калега, калі апынуўся на крывянскай дарозе, што ад шашы вядзе да вёскі, наракаў: «О-, спулдзельня, не могуць прывезці і насыпаць пяску». Я запярэчыла: «Тут ужо навезлі пяском, дарога раней была куды горшая. Але як відаць, сам пясок не памагае. Патрэбны брук».

Крывяне таксама кажуць, што патрэбны брук. І не толькі кажуць. Ужо некалькі добрых год таму навазілі са сваіх палёў камення. але гэтае каменне ім забралі ў аколіцы Парцава, бо там трэба было дарогу брукаваць. А цяпер? Цяпер крывяне зноў адазваліся, хочуць брукаваць дарогу, але... не маюць чым. Няма камення. І так справу прадставілі Дарожнаму аддзелу ППРН у Бельску. Мы, моў, абавязваемся зрабіць усё, што ў нашых мажлівасцях. 50% работы бярэм на сябе, але вы падумайце аб брукоўцу, у нас яго няма.

— І што вам сказалі? — пытаю.

— Нічога! — адказваюць.

Аддзелу камунікацыі ППРН у Бельску адрасуем гэтую справу са сваім запэўненнем, што з гэтым каменнем у Крывой праўда. І трэба ім памагчы.

вл.

14 мая, гэтага года, пражыўшы 66 год, памёр

**МІКАЛАЙ САРОКА**

быў штатны працаўнік Галоўнага праўлення БГКТ, член нашай пярвічнай партыйнай арганізацыі.

Выказваем глыбокае спачуванне жонцы і блізкім памёршага.

**Пярвічная арганізацыя ПАРП пры рэдакцыі «Ніва»**




### ЗДЗІЎЛЕНЫ

— Што ж гэта за парадкі, — кажа наведвальнік да афіцыянта, — ужо другую муху выцягваю з супу.

— А што ж вы, за свае марныя грошы хацелі б каня выцягнуць з талеркі? — спытаў афіцыянт.

**Васіль Балтрамюк**
Навасады

НІЛ ГІЛЕВІЧ



Іван у кума «гары» насмактаўся.
  Набраўся,
Як гразі той жаба.
  І от,
Рукамі мацаючы плот,
  Дамоў падаўся.
Але трымалі ногі вельмі слаба.
  І галава.
Як скручаная ўсё адно, матлялася.
  Вядома, літры два
  Не дзе дзявалася!
Ужо і чэрці не вядуць Івана.
  Зусім нядужы,
  Ён пахіснуўся
  І расцягнуўся
  У бруднай калатушы,
Дзе прынімалі ванны
  Дзюдзі.
  Плюючца людзі!..
А ў гэты час у канюха Міхала
Свіння у хлеве загарадзь зламала
  І збегла недзе.
  Дык злосць Міхаліху ўзяла:
  «О, каб ты выдахла была!»
Глядзіць: сусед ідзе з канца сяла.
— Свінні маёй не бачыў там, суседзе? —
  Кабета ў роспачы спытала.
«Толькі што ў лужыне ляжала!» —
  І вокам не маргнуў сусед.
  Міхаліха ўслед
  Тут пасылае сына:
— Бяжы, сынок, гані! Вазьмі ж дубец!
От бо збрыдлівая скаціна!
  Ну, проста радачкі няма!..
Праз нейкі час вяртаецца хлапец.
  — Ну, што, набегаўся дарма, —
Яго на ганку маці сустракае, —
Відаць, там нейчая свіння чужая,
Бо наша ўжо даўно прыйшла сама.
  А сын
  Зарагатаў ва ўсю
(Дасціпны хлопец быў) ды кажа:
— Ага, я добра паглядзеў — не наш..
  Дык там і не свіння зусім —
  П

— Вось, глянуць бы на зямлю з высаты чалавечага палёта.



Без слоў.



Без слоў.

### БАЦЬКАЎ ПАДАРАК

Дзеці заможных бацькоў, сустрэўшыся, пачалі хваліцца, што яны атрымалі на свята.

— Мне, — кажа адзін, — бацькі купілі новы касцюм.

— А мне кашулю і нагавіцы, — кажа другі.

— А мне шапку і боты...

Каля іх стаяў хлопчык босенькі і ў парванай вопратцы. Не маючы чым пахваліцца, ён зняў працёртую шапку і працягнуўшы рукой па чупрыны, кажа:

— А мяне тата падстрыглі! Ага!

**Ніна Аляксеюк**
Палічна




### НЕ ЗАБЫЎСЯ

Маці выслала хлопчыка да цёткі па ножніцы стрыгчы авечкі. Ідучы да цёткі, хлопчык задзівіўся на самалёт і паўтараючы: ножніцы, ножніцы... спатыкнуўся і ўпаў. Устаў ён і кажа:

— Упаў, не забіўся, устаў, не забыўся. Цёця, мама прасіла долата, што авечкі даўбсці.

**Саколік**
Плюцічы

### У КІНО

— Раскажы сынок, што ты бачыў у кіно.

— Ай, мама, нічога я цікавага не бачыў.

— Чаму ж гэта?

— Бо вы казалі глядзець туды, дзе будзе глядзець тата.

— А тата куды глядзеў?

— На сваю суседку з левага боку.

**Юрка Скепка**
Альхоўка

### ЗА ШТО ПАСАДЗІЛІ?

— Сяргей, за што цябе пасадзілі?

— За тое, што за хутка ехаў самаходам. А цябе за што?

— Мяне за тое, што павалу ехаў самаходам.

— Чалавеча, яны ж за гэта не мелі права цябе пасадзіць!

— Праўда. Але бачыш, гэты самаход быў крадзены.

**Мікола Савіцкі**
Беласток

### ДЗІЎНАЯ ЖОНКА

— Дзіўная ў мяне жонка, — кажа Васіль да Трахіма, — як толькі вярнуся дамоў падвыпіўшы, дык яна нічога не гаворыць — толькі галавой трасе.

— Дык гэта табе дрэнна? — здзіўляецца Трахім. — Прышоў бы ты да мае падвыпіўшы, дык яна зробіць такое пекла, што з хаты ўцячэш.

— Бач, справа ў тым, што яна маёй галавой трасе, — сказаў Васіль.

**Аляксей Шаховіч**
Сакі




Мой сусед купіў швейную машыну. Дробным сцегам машына шые, а рэдкім — бунтуецца. Спецыяліст аглядаў машыну і заключыў, што гэта фабрычны брак.

— Ды ў мяне ж гарантыя ёсць, — успомніў сусед. Але паколькі гарантыя без машыны не шые, дык сусед напісаў у фабрыку «Лучнік», каб там усім калектывам разважылі справу.

Напісаў сусед, а з фабрыкі ні гугу. Сабраўся ён у горад. Паперкай ад спецыяліста механіка абзавёўся, з грамадскай рады ўзяў дакумент аб здачы нарыхтовак, рахунак з магазіна на машыну прыхваціў, ад доктара таксама атрымаў пасведчанне аб прывіўцы воспы ну і паехаў. Крочыць сусед вуліцамі горада, а тут, як на грэх, падэшва ў чаравіку адскочыла. Гумовая падэшва, моцная, а ўсё ж хады па бюракратычных установах не вытрымала. Хляпае падэшва, на адным абцасе трымаецца і як тут далей ісці, людзі добрыя. Стаіць сусед, задумаўшыся. Запасовага чаравіка не прыхапіў з хаты, а да хаты далёка, ну проста гвалт крычы.

Падымае сусед вочы да ўсевышняга і бачыць над галавой шыльду: «Рамонт абутку».

Уваходзіць ён да майстэрні і жаліцца паненцы, што за касай сядзіць, аб сваім няшчасці. Паненка, зразумела, спачувае. Ніякага пасвядчэння аб адарванай падэшве не патрабуе, паглядзела толькі ў цэннік і кажа:

— Грошы плаціце наперад, а за тры дні прыязджайце. Чаравік будзе як новы.

— Даражэнькая, мне ж да хаты далёка, ды запасовых колаў нямаю, — узмаліўся сусед.

— Калі без чаргі, дык падвойна заплаціце. Экспрэсам даражэй каштуе, — кажа паненка.

Заплаціў сусед, падаў чаравік, а паненка кажа:

— Пакуль што, можаце пачытаць кнігу. У нас бібліятэка вялікая для культурнага абслугоўвання кліентаў. На днях аднаму грамадзяніну абцасы рамантавалі, дык ён паспеў прачытаць поўны збор твораў Якуба Коласа.

— Дазвольце! — ускрыкнуў сусед. — Мне ж экспрэсам рамантуюць.

— Зразумела, — згадзілася паненка. — Але клей сохне 24 гадзіны. А мо' хочаце на нас скаргу злажыць, дык калі ласка. Наш аддзел скаргаў у другім канцы горада.

Паскакаў сусед на аднойназе ў другі канец горада. Кіраўнік аддзела выслухаў скаргу і рукамі развёў.

— На жаль, — адказаў ён, — у нашай спулдзельні няма хуткасохнучага клею.

Заплакаў сусед. На шчасце некая добрая душа раздабыла пару галош. І хоць галошы апошнія дні дажывалі, сусед даехаў у іх дахаты.

Як бачыце, мілыя чытачы, свет не без добрых людзей, а што новыя ўслуговыя пункты растуць на фундаменце абыякавасці да кліентаў, аб гэтым можаце напісаць скаргу.

*Дзядзька Лявон*